**СОНЦА:**

Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 6.51, 16.56, 10.05;
Віцебск — 6.44, 16.44, 10.00;
Магілёў — 6.40, 16.46, 10.06;
Гомель — 6.36, 16.44, 10.08;
Гродна — 7.08, 17.10, 10.02;
Брэст — 7.03, 17.16, 10.13.

**МЕСЯЦ:**

Апошняя квадра 19 кастрычніка




# ЗВЯЗДА

23 КАСТРЫЧНІКА 1992 г.
пятніца, № 214 (21992).

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель




# РОЗГАЛАС

## З БЕСПРАЦОЎЕМ МОЖНА ЗМАГАЦЦА

ПОЛАЦК. Нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча, у полацкім вытворчым аб'яднанні «Шкловалакно» рабочых звальняць не збіраюцца. Наадварот, робяць усё магчымае, каб захаваць рабочыя месцы. У бліжэйшыя два месяцы вырашана часова спыніць прыём на работу, на шэрагу вытворчасцей скараціць асартымент прадукцыі і працоўны тыдзень. Ажыццяўляецца таксама перавод работнікаў у тыя цэхі і карпусы, якія працавалі з недагрузкай. Шукаюцца і іншыя шляхі. Адзіныя, каму рэальна пагражае беспрацоўе,—гэта парушальнікі працоўнай дысцыпліны.

## Есць магчымасць зарабіць 20 тысяч

Ліхаманка на каляровы метал дакацілася і да Слонімшчыны. Штукары знаходзяць розныя шляхі і крыніцы, каб здабыць даволі ходкі цяпер тавар.

Здараецца і такое: пераапранаецца «брыгада» ў рабочую вопратку і на спецмашыне з камуфляжам сувязістаў накіроўваецца на «работу». Сярод белага дня пад выглядам рамонтных работ яны крадуць сотні метраў кабелю і дроту з каляровага металу.

А аднойчы выйшаў са строю экскаватар на драбільна - сартавальным заводзе—з машыны знік сілавы кабель. Дырэктар прадпрыемства паабяцаў мясцоваму ўчастковаму 20 тысяч рублёў, калі той знойдзе злодзея і, вядома, кабель.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК.**

## «РУКА» БЕЛАРУСІ Ў САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ

**Прынцыпова новую мадэль колавага трактара рыхтуе да вытворчасці Кіраўскі завод Санкт-Пецярбурга. Трактары К-20, якія ў хуткім часе пачнуць сыходзіць з канвеера, вельмі манеўраныя, зручныя ў эксплуатацыі, універсальныя. З адпаведным наборам прычапной тэхнікі яны здольныя выконваць практычна любую сельскагаспадарчую работу. Таму і атрымалі назву «Арандатар». Можа не варта было б паведамляць пра гэта, каб не адзін факт. У стварэнні новага трактара ёсць і беларуская доля, бо вельмі важныя часткі пастаўляе Гродзенскі завод карданных валаў.**

## ДА КАНЦА ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ ЗАСТАЛОСЯ 8 ДЗЁН

Падпіска на рэспубліканскія газеты і часопісы ўступіла ў заключную стадыю, і мы прапануем вам даныя, якія адлюстроўваюць тыражы некаторых выданняў Беларусі па стану на 15 кастрычніка 1992 года.

«Звязда» — 92.209 экземпляраў;
«Народная газета» — 219.025 экземпляраў;
«Советская Белоруссия» — 247.376 экземпляраў;
«Белорусская нива» — 46.833 экземпляры;
«7 дней» — 69.883 экземпляры;
«Знамя юности» — 35.405 экземпляраў;
«Рэспубліка» — 13.418 экземпляраў;
«Чырвоная змена» — 2.383 экземпляры.

А вось як размяркоўваецца папярэдні тыраж «Звязды» па розных рэгіёнах рэспублікі.

Брэсцкая вобласць — 8.391 экземпляр;
Віцебская вобласць — 15.599 экземпляраў;
Гомельская вобласць — 18.814 экземпляраў;
Мінская вобласць — 24.633 экземпляры;
Магілёўская вобласць — 9.330 экземпляраў;
Гродзенская вобласць — 12.886 экземпляраў;
Горад Мінск — 2.556 экземпляраў.

Абедзве табліцы не патрабуюць асаблівых каментарыяў.

Зазначым толькі, што «Звязда» ўжо пераўзышла тыраж бягучага года.

**Кар. «Звязды».**

**Выпуск «Розгаласа» падрыхтавалі: У. Здановіч, І. Карней, С. Сулкоўскі.**

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Аб парадку дня дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Уключыць у парадак дня дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб размеры мінімальнай заработнай платы».
2. Аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.
3. Інфармацыя Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб становішчы ў эканоміцы і мерах па яе стабілізацыі.
4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1992 год».
5. Аб праекце Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Рэспублікі Беларусь.
6. Аб рэспубліканскім рэферэндуме.
7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі».
8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь».
9. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» (другое чытанне).
10. Аб праекце Палажэння аб ацэнцы жылля з улікам спажывецкіх якасцей.
11. Аб невыкананні Урадам рэспублікі Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 29 кастрычніка 1991 года «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» са змяненнямі, унесенымі Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 23 красавіка 1992 года.
12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь».
13. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні Палажэння аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь».
14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб службе ў дзяржаўным апараце» (другое чытанне).
15. Аб ваеннай дактрыне Рэспублікі Беларусь.
16. Аб парадку праходжання ваеннай службы афіцэрамі-грамадзянамі Рэспублікі Беларусь за межамі Рэспублікі Беларусь.
17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб усеагульным воінскім абавязку і вайсковай службе» (другое чытанне).
18. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне» (другое чытанне).
19. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).
20. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых» (другое чытанне).
21. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб праве ўласнасці на зямлю» (другое чытанне).
22. Справаздача Старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь аб дзейнасці Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.
23. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Камітэце дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь».
24. Справаздача выконваючага абавязкі Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Кандрацьева У. К. аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй.
25. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб узмацненні барацьбы са злачынствамі ў сферы эканомікі і з карупцыяй» і аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь».
26. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).
27. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).
28. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб альтэрнатыўнай (працоўнай) службе».
29. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб кіруючага і радавога складу органаў унутраных спраў».
30. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб ваеннай прысязе на вернасць народу і Рэспубліцы Беларусь».
31. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унутраных войсках Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь».
32. Аб індэксацыі ўкладаў насельніцтва Рэспублікі Беларусь у ашчадных банках рэспублікі.
33. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) Рэспублікі Беларусь».
34. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб страхаванні».
35. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях».
36. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).
37. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь».
38. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях» (другое чытанне).
39. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь».
40. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб парадку вырашэння калектыўных працоўных спрэчак (канфліктаў)».
41. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб правах дзіцяці».
42. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь».
43. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці» (другое чытанне).
44. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове здароўя грамадзян Рэспублікі Беларусь».
45. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб санітарна-эпідэмічным дабрабыце насельніцтва».
46. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб медыцынскім страхаванні грамадзян і фінансаванні аховы здароўя».
47. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб фізічнай культуры і спорце».
48. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове і зберажэнні гісторыка - культурнай спадчыны» (другое чытанне).
49. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнай навукова - тэхнічнай палітыкі» (другое чытанне).
50. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб патэнтах на вынаходствы».
51. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб патэнтах на прамысловыя ўзоры».
52. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб таварных знаках і знаках абслугоўвання».
53. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь».
54. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь».
55. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтным ладзе і бюджэтным працэсе».
56. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб валютным рэгуляванні».

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*В. КЕБІЧ:*

## Мы павінны аб'яднаць намаганні ў імя галоўнага...

**ІНФАРМАЦЫЯ ЎРАДА «АБ СТАНОВІШЧЫ Ў ЭКАНОМІЦЫ І МЕРАХ ПА ЯЕ СТАБІЛІЗАЦЫІ» ВЯРХОЎНАМУ САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

Паважаны Старшыня!

Паважаныя народныя дэпутаты!

Сапраўды існуе вялікая неабходнасць у тым, каб і парламент, і народ больш поўна ведалі, які цяперашні стан нашай эканомікі, як урад ацэньвае гэты стан і якія крокі ён робіць.

У той або іншай меры вы валодаеце абстаноўкай. Таму я бачу сваю задачу не ў тым, каб закрануць літаральна ўсе пытанні, колькасць якіх — вялікае мноства, а ў тым, каб выдзеліць галоўныя праблемы, даць аб'ектыўны аналіз таму, што адбываецца, якія тэндэнцыі, як можа пайсці далейшае развіццё падзей.

Перш за ўсё зусім відавочна: эканоміка наша перажывае вельмі складаны для яе час. Бясспрэчна, яна нясе на сабе адбітак тых працэсаў, якія ў цэлым звязаны з пераходам да зусім новай грамадска-дзяржаўнай будовы. І гэта, бадай, галоўнае. Такія буйныя пераўтварэнні ніколі і нідзе не праходзілі гладка і бязбольна. Гэта аб'ектыўны працэс, і спрашчаць яго, зводзіць да пытанняў тыпу «Хто вінаваты?», адназначна спрабаваць усё расставіць па палічках, — занятак безнадзейны. Больш важна, на наш погляд, іншае — уловіць правільна агульную сітуацыю і вызначыць, якія механізмы павінны быць уключаны ў дзеянне, каб выйсці з таго цяжкага становішча, у якім мы апынуліся.

Прычын нашых сённяшніх цяжкасцей нямала. Але цяпер больш за ўсё наслойваюцца тыя з іх, якія звязаны з рэзкім абмежаваннем магчымасцей набыцця ва ўмовах шматразовага павышэння цэн такіх жыццёва важных рэсурсаў, як нафта, збожжа і цэлы рад іншых. А гэта ў сваю чаргу робіць уплыў на цану канчатковай прадукцыі і пачало ўжо ствараць немалыя цяжкасці з яе збытам.

Менавіта гэта вызначае тая акалічнасць, што спад прамысловай вытворчасці, які ў нас сёння ёсць (а ён склаў за 9 месяцаў каля 14 працэнтаў), менш за ўсё з'яўляецца праяўленнем нейкага ўнутранага стану нашай эканомікі. Гэта хутчэй яе рэакцыя на знешнія фактары, на імкненне структурна прыстасавацца да новых умоў.

Калі для аналізу выключыць з агульных аб'ёмаў прамысловай вытворчасці нафтаперапрацоўку, шынную прамысловасць, вытворчасці, падвергнутыя канверсіі, то няцяжка ўбачыць, што агульнае зніжэнне вытворчасці па астатніх галінах знаходзіцца ў межах 6—8 працэнтаў, ды і то ў значнай меры яно звязана (асабліва ў машынабудаванні) з пераходам на новую наменклатуру вырабаў, якая карыстаецца попытам. Некалькі большае зніжэнне вытворчасці ў аграрным сектары. Яно складае прыкладна 17 працэнтаў. Тут таксама перш за ўсё робяць уплыў прычыны структурна-цэнавага характару і забяспечанасці рэсурсамі. Натуральна, што становішча ў базавых галінах адбілася на тым, што на 15 працэнтаў знізіўся нацыянальны даход, а гэта ў сваю чаргу ўскладніла фінансавае становішча дзяржавы, абмежавала магчымасці інвестыцый і выканання сацыяльных праграм.

Тым не менш наша эканоміка, калі яе ацэньваць на макраўзроўні, з'яўляецца даволі ўстойлівай, яна сёння вытрымлівае такія прапорцыі паміж атрыманым і выкарыстаным нацыянальным даходам, якія даюць магчымасць ёй функцыяніраваць у адносна прымальных для цяперашніх умоў рэжымах. Ва ўсякім разе расходы на накапленне і спажыванне ў дзеючых цэнах не перавышаюць аб'ём крыніц, што ўтвараюцца для гэтых мэт.

За 9 месяцаў атрыманы нацыянальны даход склаў 411 мільярдаў рублёў, выкарыстаны — 387 мільярдаў рублёў, або 94 працэнты.

Інакш кажучы, наша эканоміка сябе не праядае і здольная выйсці з цяперашняга цяжкага стану. І нам трэба працаваць над тым, каб стварыць для гэтага неабходныя ўмовы. Вядома, зрабіць гэта не проста, таму што пастаянна, амаль ці не кожны дзень, узнікаюць усё новыя і новыя праблемы, на якія трэба неадкладна рэагаваць.

Прычым праблемы часцей за ўсё параджаюцца не столькі ўнутранымі прычынамі, колькі тым, што адбываецца ў эканоміках іншых краін СНД. З гэтымі ж краінамі (і гэта не адзін раз падкрэслівалася) у нас разгорнутыя, гадамі існуючыя эканамічныя адносіны і адразу, як вы разумееце, яны змяніцца не могуць.

Гэта вядомыя ісціны, але не лічыцца з гэтым нельга. Таму мы і дабіваемся, каб адносіны ў рамках Садружнасці былі як мага больш упарадкаванымі. Тым не менш, нягледзячы на ўсе цяжкасці, станаўленне рыначнай эканомікі ідзе. Вызвалена пераважная большасць цэн, а гэта важнейшы, пускавы механізм рынку. Вядома, ва ўмовах таварнага дэфіцыту свабодная цана становіцца вельмі магутным фактарам націску як на вытворцу, так і на спажыўца. І мы гэта ўжо адчулі. Але тут нічога не зробіш. У рыначнай эканоміцы свае, часам вельмі строгія, нават жорсткія, законы. Вартасці свабоднага цэнаўтварэння могуць праявіцца, і яны, несумненна, праявяцца, калі сфарміруюцца і пачнуць працаваць усе рыначныя структуры і абсудзецца напаўненне таварнай масай.

Гэта па-першае. А па-другое, і гэта таксама важнейшы элемент рынку, на прынцыпова новай аснове, дыяметральна процілеглай дырэктыўнай, сталі наладжвацца гаспадарчыя сувязі. У прадпрыемстваў з'явілася магчымасць свабоднага, без указанняў зверху, выбару партнёраў на аснове ўзаемных эканамічных інтарэсаў. І гаспадарнікі такія формы адносін сталі асвойваць і пачынаюць прывыкаць дзейнічаць самастойна.

Фарміруюцца і іншыя элементы рынку. Пры падтрымцы ўрада ідзе станаўленне прадпрымальніцкіх, банкаўскіх і камерцыйных структур. Хоць і марудна, але ўсё ж праводзіцца прыватызацыя. Але цяпер такі этап, калі дзяржава многія важныя нервы эканомікі павінна трымаць у сваіх руках з тым, каб працэсы, якія адбываюцца, не пераходзілі тую мяжу, калі негатыўныя з'явы становяцца незваротнымі, а дзяржава страчвае магчымасць аказання насельніцтву належнай сацыяльнай падтрымкі. І ўрад, нягледзячы на крытыку некаторых вельмі ўжо амбіцыйных радыкалаў, праводзіць і далей будзе праводзіць лінію на тое, каб дзейнічаць узважана, асцярожна, рабіць усё для таго, каб аблегчыць людзям тую ношу, якая выпала на іх долю.

Так, большасці насельніцтва жывецца цяпер нялёгка. Але няма ў нас ні голаду, ні масавага беспрацоўя. І людзі не будуць мерзнуць зімой у сваіх кватэрах. Урад робіць і ў далейшым будзе рабіць усё, што ад яго залежыць, для таго, каб максімальна змякчыць нашаму народу вынікі эканамічных цяжкасцей. Я пра гэта не раз ужо гаварыў і пацвярджаю гэта сёння.

Такая агульная сітуацыя. Цяпер — аб асобных вузлавых праблемах. Тут на першы план я, безумоўна, выставіў бы пытанні бюджэтнай палітыкі. Галоўнае ў ёй заключаецца ў тым, каб, з аднаго боку, — актыўна ўздзейнічаць на структурную перабудову эканомікі, стварэнне рыначнага асяроддзя і ўмоў, пры якіх прадпрыемствы былі б зацікаўлены ў эфектыўным вядзенні гаспадаркі, а з другога — забяспечыць фінансаванне неабходных расходаў і падтрымку жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

(Працяг на 2-й стар.).

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 8 ДЗЁН. ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ» — 63850, ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ПАЎГОДА — 120 РУБЛЁЎ.**




### ВАША ЗДАРОЎЕ

## Масаж кісці

**Наўрад ці знойдзецца чалавек, які ніколі не зведаў стрэсу — стану, які ўзнікае пры ўздзеянні на арганізм надзвычайных або паталагічных раздражняльнікаў. Выйсці з яго бывае часам настолькі складана, што даводзіцца звяртацца да ўрача.**



**Асабліва часта абрушвае на людзей стрэс сучасны скарацечны і напружаны час. Але, відаць, нешта такое зведвалі ў экстрэмальных сітуацыях і нашы далёкія продкі. Інакш не растлумачыш, чаму старажытныя вучоныя, у тым ліку вучоныя Усходу, шукалі сродкі, пры дапамозе якіх чалавек сам дапамагаў бы сабе супакоіцца, зняць неспрыяльныя вынікі псіхаэмацыянальнага стрэсу.**

Адзін з такіх спосабаў — прыйшоўшае да нас з індыйскіх, кітайскіх, карэйскіх лячэбна-аздараўленчых сістэм уздзеянне на рэфлексагенныя зоны на кісцях рук. Не ўсе ведаюць, што па насычанасці акупунктурнымі зонамі, на якія праецыруюцца ўсе органы чалавека, кісці не ўступаюць вуху і ступні.

641

**Першы спосаб.** Вазьміце грэцкі арэх і паміж далонямі, рабіце кругавыя рухі. Сціскайце арэх спачатку з невялікім намаганнем, а затым пастунова павялічваючы яго (фота 1). Масіруючы



далоневую паверхню, больш уздзейнічайце на болевыя ўчасткі далоні. Час: 1—3 хвіліны.

Можна рабіць масаж і двума арэхамі (фота 2).



Пакладзіце на далонь два аднолькавыя па размеру арэхі. Затым павольна рабіце кругавыя рухі, перакатваючы адзін арэх праз другі або паварочваючы іх па плоскасці далоні адзін за адным: у правай далоні — па гадзіннікавай стрэлцы, у левай — супраць. Час: 3 — 5 хвілін. Калі няма арэхаў, можна выкарыстаць шарыкі для настольнага тэніса.



**Другі спосаб.** Вазьміце шасцігранны аловак. Заціснуўшы яго паміж далонямі, расцірайце іх, перакатваючы аловак, паступова павялічваючы намаганне да з'яўлення адчування ў далонях прыемнага цяпла. Час: 1—2 хвіліны.

Пасля гэтага кісцю правай рукі расцірайце алоўкам тыльную паверхню левай кісці да з'яўлення ў ёй адчування цяпла (фота 3). Час: 1—2 хвіліны. Затым тое самае левай рукой.

Можна, узяўшы аловак у правую руку, расціраць ім унутраныя бакі кожнага пальца левай рукі. Тое самае другой. Час: 2—3 хвіліны.

Узяўшы аловак правай рукой, націскайце яго незавостраным канцом на болевыя кропкі (калі яны ў вас ёсць) левай кісці, робячы кругавыя рухі на працягу 1—2 хвілін (фота 4). Тое самае левай рукой. Паспрабуйце рабіць няпоўныя рухі спачатку ў адзін, затым у другі бок на працягу 30 — 40 секунд, націскаючы на вобласць кожнай болевай кропкі.

642

**Закончыўшы масаж кісцяў, разатрыце правай рукой кожны палец левай рукі (а затым наадварот) рухамі спачатку ўздоўж пальца, потым упоперак. Час: 2—3 хвіліны на кожную.**

## Паклапоцімся пра свае вочы

**Кожны ведае народную прымаўку: «Беражы, як зрэнку вока». А вось ці ўмеем мы берагчы, даглядаць свае вочы, як даглядаем рукі, твар? Майце на ўвазе, гэта патрэбна і каб лепш бачыць, і каб лепш выглядаць. Нічога ж так не ўпрыгожвае твар, як ясныя, выразныя вочы з чыстымі павекамі і дагледжанымі вейкамі.**





● Калі вы працавалі на вуліцы ў мароз, дождж, у запыленым асяроддзі, прамыйце вечарам вочы растворам борнай кіслаты (палавіну чайнай лыжкі на шклянку вады), рамонкам, кропам або чайным настоем, каб павекі не пачырванелі.

● Не перанапружвайце вочы: калі доўга чытаеце, вяжаце і г. д., дайце ім адпачынак. Заплюшчыце на 5—10 хвілін, пакладзіце на павекі халодную прымочку з любога рэкамендаванага вышэй раствору. Карысная таксама гімнастыка для вачэй: паглядзіце ўверх—уніз—направа—налева, зрабіце кругавыя рухі вачамі, спачатку ў адным напрамку, потым у другім.

● Шчотачку для тушы, якой падводзіце вейкі, трэба перыядычна мыць у мыльным растворы і добра прапаласкваць. Наносіцца туш у напрамку да краю вейкаў, асцярожна, каб яна не трапіла на слізістую абалонку. На ноч туш здыміце ватным тампонам з вадкім крэмам, «малачком» або цёплым алеем.

● Калі вейкі тонкія або рэдкія, лепш не карыстацца тушшу часта, бо яны становяцца ломкімі, слабымі. «Падсілкоўваць» вейкі можна любым алеем — сланечнікавым, касторавым, персікавым...

● Калі лёгка ўзнікаюць раздражненні, перастаньце карыстацца тушшу, зрабіце ахалоджваючыя прымочкі з борнай кіслатой, краі павекаў змажце тонкім слоем гідракарцізонавай вочнай мазі.

643

### СМАЧНА ЕСЦІ!

## Кансерваваныя супы

**Да страў у слоіках раней гаспадыні адносіліся, скажам прама, не вельмі ўважліва. І дарэмна. Цяпер жа, калі «супы», «баршчы» ў магазінах пакуль што ёсць (і каштуюць нямнога па цяперашніх цэнах), раім павярнуцца да іх тварам, тым больш, што з гэтых «паўфабрыкатаў» можна згатаваць добрыя стравы.**

**ПА-ПЕРШАЕ, НЕКАЛЬКІ АГУЛЬНЫХ ПАРАД**

● Слоікі трэба адкрываць непасрэдна перад прыгатаваннем. Адкрытымі кансервы можна захоўваць не больш 12—15 гадзін, а ў халадзільніку — 2—3 сутак.

● Каб пазбегнуць страты вітамінаў, змесціва слоіка трэба выкладваць у кіпень.

● Награванне патрэбна выключна для таго, каб змяшаць састаўныя часткі стравы. Працяглае гатаванне — зніжэнне смакавых якасцей.

● Разбаўленне кансерваў робіцца ў наступных суадносінах: 1:1 (роўныя колькасці вады і кансерваў) для кансерваў з мясам і зялёнай капусты; 1:1,5 для такіх, як «Боршч са свежай капусты», «Боршч з квашанай капусты», «Бурачнік» і інш.; 1:0,5 — для пюрэпадобных супоў.

**А ЦЯПЕР РЭЦЭПТЫ**

**Расольнік па-хатняму.** 1 слоік кансерваў, 1,5 л булёну ці вады, 150 г капусты, 4 бульбіны, смятана.

У кіпячы булён ці ваду пакласці парэзаную свежую капусту, давесці да кіпення, дадаць нарэзаную бульбу і варыць да паўгатоўнасці бульбы. Потым пакласці кансервы і варыць на малым полымі да гатоўнасці бульбы. Смятана — пры падачы на стол.

**Боршч:** 1 слоік кансерваў, 2 л булёну ці вады, 150 г капусты, 4 бульбіны, смятана, зяленіва.

У кіпячы булён ці ваду пакласці нашынкаваную свежую ці квашаную капусту, давесці да кіпення, дадаць бульбу і кансервы. Варыць да гатоўнасці.

Гэтак жа можна прыгатаваць бурачнік. Смятана, зяленіва — пры падачы на стол.

**Боршч з кансерваў «Капуста тушаная»:** 1 слоік кансерваў, 1,5 л булёну ці вады, 1—2 бульбіны, смятана, зяленіва, соль.

У кіпячы булён ці ваду пакласці нарэзаную кубікамі бульбу і варыць 10 хвілін, пасля чаго дадаць кансервы і варыць на невялікім агні да гатоўнасці агародніны. Запраўка па смаку соллю, смятанай, зяленівам.

644

